Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 070
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 16 кастрычніка 1998 г. № 111 (503) Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Дапамога ад праваслаўнага атэіста

**Як паведамляе БелаПАН, завяршаецца беларуская дабрачынная акцыя па аказанні харчовай дапамогі расійскім «братам па веры». Дзесяці праваслаўным цэнтрам Расіі будзе дастаўлена з Беларусі каля 400 тон харчавання.**

Па словах старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Аляксандра Білька, акцыя міласэрнасці «Беларусь — Расія» праводзіцца па ініцыятыве прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў адказ на просьбу патрыярха Алексія II, выказаную падчас яго нядаўняга візіту ў Беларусь. *«Прэзідэнт пранікся бядотным станам 240 манастыроў і сястрыцтваў Расіі ў цяперашні крызісны час і прапанаваў аказаць дапамогу 10 духоўным цэнтрам саюзнай дзяржавы па спісе, прадстаўленым Алексіем II»*, — адзначыў А.Білык.

10 кастрычніка караван гуманітарнай дапамогі з 19 аўтамабіляў з 230 тонамі харчавання (бульба, агародніна, сыр, згушчанае малако, цукар, крупа, макаронныя вырабы, кансервы з агародніны) накіраваўся ў Маскву. 11 кастрычніка груз быў дастаўлены ў Свята-Данскі мужчынскі, Зачацьеўскі і Пакроўскі жаночы манастыры Масквы, у сястрыцтва Маскоўскай патрыярхіі, Праваслаўны Свята-Ціханаўскі багаслоўскі інстытут і Свята-Дзмітрыеўскае вучылішча сясцёр міласэрнасці. 14—15 кастрычніка яшчэ каля 170 тон харчавання адпраўлена ў Спаса-Прэабражэнскі Салавецкі (пасёлак Салаўкі на Салавецкіх астравах у Архангельскай вобласці), Свята-Уведзенскую Опціну Пустынь (г.Казельск, Калужская вобласць), Мікола-Угрэшскі (г.Дзяржынскі, Маскоўская вобласць) і Спаса-Прэабражэнскі Валаамскі (востраў Валаам на Ладажскім возеры ў Ленінградскай вобласці) ставрапігіяльныя мужчынскія манастыры (непасрэдна падпарадкаваныя патрыярху).

Па словах Аляксандра Білька, у Расіі з вялікім энтузіязмам і ўдзячнасцю ўспрынялі акцыю «Беларусь — Расія».

**М.Г.**

## Адзенне для Сахаліна

**Беларускае міністэрства па надзвычайных сітуацыях прыступіла да збору гуманітарнай дапамогі для жыхароў Сахаліна, якія пацярпелі ад пажараў.**

Па ўсёй Беларусі адчынены пункты збору цёплага адзення ад насельніцтва. У Цэнтральным раёне Мінска, напрыклад, напакавалі ўжо 7 скрыняў. Цяпер патрабуецца санітарная апрацоўка рэчаў. У школах вучні збіраюць школьныя прыналежнасці і кнігі на рускай мове для сваіх аднагодкаў на Сахаліне. У некаторых школах наладжаны збор грошай. Прадпрыемствам дадзена каманда выдзеліць для сахалінцаў адзенне, абутак, абагравальныя прыборы, посуд.

Беларускія ўлады накіруюць таксама будаўнічыя матэрыялы, медыкаменты і вітаміны, а таксама насенне для аднаўлення лясоў. Павязуць на Сахалін яшчэ і прадукты харчавання, сырод якіх бульба, сухое малако, мясныя кансервы. Прадстаўнік прэзідэнта ў органах інтэграцыі Васіль Далгалёў рэкамендуе выкарыстаць для адпраўкі гуманітарнага грузу чыгуначны калідор Брэст—Уладзівасток. Тэрмін дастаўкі дапамогі не павінен перавышаць дзевяці дзён.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Хто ўхіляецца ад службы ў войску?

### *Цікавыя звесткі паведаміў абласны ваенкамат Гомеля*

Як высвятляецца, ад службы ў войску ўхіляюцца выключна гарадскія хлопцы, а вясковыя — усе як адзін ідуць служыць. У прыватнасці, падчас мінулай (летняй) прызыўной кампаніі на прызыўныя пункты вобласці не з'явіліся 214 юнакоў. Большасць з іх (156) — жыхары Гомеля і Мазыра, астатнія — з іншых райцэнтраў вобласці. Ніводны ж вясковы хлопец ад службы ў войску не збег.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Беларускі дэсант высадзіўся ў Югаславіі

**У сераду ў Бялградзе прызямліўся самалёт «Белавія» з беларускай дзяржаўнай дэлегацыяй на борце. Амаль 40 чалавек на чале з дзяржсакратаром Савета бяспекі Віктарам Шэйманам прыляцелі на дапамогу братам-сербам.**

Перад адлётам з Мінска В.Шэйман сустрэўся з прэзідэнтам Лукашэнкам і атрымаў «надзвычайныя паўнамоцтвы». Змест паўнамоцтваў, а таксама склад дэлегацыі трымаецца ў вялікім сакрэце. Віктар Шэйман абавязаны інфармаваць нашага галоўнакамандуючага, каб той мог загадзя аказаць *«палітычную, эканамічную і ваенна-тэхнічную дапамогу»*.

Дэсант з Мінска складаецца з прадстаўнікоў адміністрацыі прэзідэнта, міністэрстваў абароны і замежных справаў, «палатачных» дэпутатаў і «чэсных» журналістаў. Па нашых звестках, у гэтую групу ўваходзяць дарадца прэзідэнта, прафесар Урал Латыпаў, старшыня «палатачнай» камісіі па міжнародных справах Мікалай Чаргінец, намеснік мінскага мэра Віктар Чыкін, намеснік кіраўніка дзяржпратакола МЗС Яўген Грэцкі і іншыя. Усяго каля 40 чалавек, якіх падабраў Савет бяспекі. Але, відаць, самы галоўны член дэлегацыі — сын прэзідэнта Віктар Лукашэнка. Магчыма, якраз гэтай акалічнасцю і тлумачыцца засакрэчанасць вакол тэрміновага вылету дэсанта.

Калі верыць беларускім афіцыйным СМІ, то жыццё Шэймана і іншых нашых «дэсантнікаў» знаходзіцца пад пагрозаю, паколькі *«над Югаславіяй згушчаюцца навальнічныя хмары, з якіх на гэтую краіну гатовы пасыпацца натаўскія бомбы і ракеты»* — такімі словамі пачынаецца паведамленне пра вылет беларускай дэлегацыі, распаўсюджанае агенцтвам БелТА.

Колькі часу будуць знаходзіцца на Балканах нашыя «дабравольцы» — дакладна невядома. Атрад дэпутата Касцяна планує пратрымацца ў Бялградзе тры дні, а Чаргінцу выпісалі камандзіроўку на сем дзён. Генерал Шэйман разлічвае на два дні. Відаць, усё будзе залежаць ад надвор'я. Як толькі разгоняць «навальнічныя хмары», то дзяржсакратар вернецца ў Мінск і прыступіць да выканання непасрэдных абавязкаў.

Камандзіроўка генерала Шэймана звязаная з лукашэнкаўскім прагнозам. Мауляў, чарговай пасля Югаславіі будзе Беларусь, бо *«господа распоясались, когда исчез Советский Союз»*. Афіцыйная прэса таксама папярэджвае беларусаў: *«На Балканах решается не только судьба Сербии...»*



*Генерал Шэйман паляцеў на дапамогу братам-сербам.*

У мутнай вадзе кожны ловіць сваю рыбку. Прэзідэнт Лукашэнка робіць сабе рэкламу, а дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута гематалогіі і пералівання крыві Яўген Іваноў рэкламуе свае прэпараты. На старонках «Рэспублікі» прафесар піша пра «ўзброены да зубоў імперыялізм» і згадвае пра збітыя беларускімі вайскоўцамі амерыканскі паветраны шар. Маўляў, слушна зрабілі: *«цяпер над Беларуссю без дазволу нікто нахабна не лятае»*, — піша Іваноў. Аднак, не гэта галоўнае. Прафесар Іваноў *«рэкламуе айчынныя элексіры здароўя, нашыя кровазамяняльнікі, якія пераўзыходзяць замежныя»*. Дырэктар гатовы паставіць у Югаславію любую колькасць прэпаратаў і нават паехаць кансультантам па іх прымяненні.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## У Брэсце забіты настаяцель царквы

### *Святар Міхаіл Сацюк загінуў ад нажа невядомага забойцы*

У мінулы аўторак каля Брэста ў аўтамабілі «фольксваген» быў знойдзены забітым айцец Міхаіл Сацюк. Настаяцель Свята-Мікалаеўскай царквы Брэста загінуў ад шматлікіх удараў нажом у грудзі, галаву і нагу. Узбуджана крымінальная справа па артыкуле «наўмыснае забойства». Дапамогу мясцовым сышчыкам у пошуках злачынцаў аказвае брыгада следчых з Мінска.

«Фольксваген-Вента» айца Міхаіла быў знойдзены ў лесе непадалёк ад пасёлка Вычулкі пад Брэстам, дзе ва ўласным доме жыў святар. Яго ўжо шукала міліцыя: раніцай у аўторак родныя паведамілі, што айцец Міхаіл не вярнуўся пасля вячэрняй службы дадому. Да таго ж, праз некалькі гадзінаў прыйшло трывожнае паведамленне ад ахоўнікаў царквы. Яны знайшлі расчыненым кабінет святара, а ягоны сейф аказаўся пустым. Між тым, ключ ад сейфа быў толькі ў айца Міхаіла.

Перад міліцыянтамі, якія першымі агледзелі машыну, прадстала жудасная карціна. Міхаіл Сацюк ляжаў весь у крыві на заднім сядзенні. На ягоным целе налічылі ажно 12 нажавых ранаў, большасць з іх — смяротныя.

Міхаілу Сацюку было 47 гадоў. Ён нарадзіўся пад Брэстам, а духоўную адукацыю атрымаў у Загорску пад Масквой, у славутай семінарыі. З 1989 года айцец Міхаіл — настаяцель Свята-Мікалаеўскай царквы ў Брэсце. У гэтым храме раней быў архіў, Міхаіл Сацюк шмат зрабіў, каб адрамантаваць будынак і аднавіць у ім духоўнае жыццё.

Міліцыя пакуль устрымліваецца ад выказвання версіяў забойства. Той факт, што абрабаваны сейф святара, наводзіць на думку пра карыслівыя мэты злачынства. Аднак трэба дадаць, што нябожчык быў не шэраговым святаром. З мінулага года ён быў абраны сакратаром Брэсцка-Кобрынскага епархіяльнага ўпраўлення. Па царкоўнай іерархіі гэта другая па значнасці асоба ў епархіі.

У пахаванні айца Міхаіла, якое адбылося ўчора, удзельнічаў мітрапаліт Філарэт. Пахавалі святара на царкоўным двары — гэта першы выпадак у гісторыі савецкай і постсавецкай Беларусі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Долар ставіць рэкорды

**Курс долара на «чорным рынку» сталіцы ўчора дасягнуў адзнакі ў 145 тысяч рублёў. «Валютчыкі» мяркуюць, што бліжэйшымі днямі не варта чакаць далейшага росту курса.**

Справа ў тым, што магчымасці «чорнага рынку» абмежаваныя: скупіўшы ў насельніцтва шмат валюты, «чорны рынак» пачынае адчуваць недахоп беларускіх рублёў. Таму, сцвярджаюць «валютчыкі», на кароткі тэрмін рост курса долара будзе спынены, магчыма нават невялічкае падзенне, а праз тыдзень-два «зялёны» зноў пойдзе ўверх.

І ўжо зусім анекдатычнымі здаюцца «афіцыйныя» лічбы ацэнкі курса долара: 76 тысяч беларускіх рублёў за 1 долар у абменных пунктах і 54.800 — у Нацбанку.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Казімера Прунскене ў Мінску

**Учора ў Мінск прыбыла дэлегацыя Літоўскай канфедэрацыі прамыслаўцоў і прадпрымальнікаў.**

Дэлегацыю ўзначальвае дэпутат сейма Казімера Прунскене. Латышы будуць у Мінску два дні. Плануюцца перамовы з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам, а таксама падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве.

**Б.П.**

## Цёплае месца

**На Кубе з'явіцца першае на лацінаамерыканскім кантыненце пасольства Беларусі.**

Як паведамілі нам у МЗС, у лістападзе на «востраў свабоды» будзе пасланы дыпламатычны супрацоўнік, які зоймецца вырашэннем арганізацыйных пытанняў, звязаных з адкрыццём амбасады.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Фуры стаяць на прыколе

**Сход членаў Беларускай асацыяцыі міжнародных аўтаперавозчыкаў (БАМАП) адбыўся 15 кастрычніка ў Брэсце.**

Цэнтральным было пытанне аб цяжкім эканамічным становішчы, у якім, па словах прэзідэнта БАМАП Мікалая Баравога, асацыяцыя апынулася ўпершыню за апошнія шэсць з палавай гадоў. З прычыны расійскага крызісу аб'ём перавозак скараціўся больш чым у тры разы (рэч у тым, што беларускія транспартнікі перавозілі пераважна грузы расіянаў). Найбольшыя страты нясуць мінскія і брэсцкія аўтаперавозчыкі. Вызсце з гэтай складанай сітуацыі бачыцца ў супрацоўніцтве з іншымі краінамі СНД — Таджыкістанам, Грузіяй, Азербайджанам.

**Алег ПЛУТАЎ**

*Ліст у рэдакцыю*

## З кім ваюем, жабракі?

Слухаючы фанабэрысты выступ Лукашэнкі з пагрозамі ў бок *NATO*, які паслужліва перадало расійскае тэлебачанне (а хто б яго пачуў праз нікчэмнае БТ), я адчуваў агіду і гнеў.

Аляксандр Рыгоравіч, вы, прэзідэнт жабрачай краіны, дзе большасць насельніцтва належыць да самага беднага пласта свету, дзе людзі жывуць меней чым на адзін долар у суткі. І вы хочаце абабраць нас яшчэ болей, марнуючы грошы на чарговую авантуру!

Я, мінскі настаўнік, працую на максімальнай стаўцы, атрымаў за верасень заробак, эквівалентны 24 доларам ЗША. Вы казалі, што атрымліваеце 14 мільёнаў рублёў, таксама небагата. Але за вамі — нацыянальныя запаведнікі, якія вы выразаеце на дошкі і прадаеце ненавіснаму вам Захаду. У вас сотні найлепшых будынкаў, з якіх вы стрыжаце арэндную плату. У вас незаконна захопленыя прафсаюзныя дамы адпачынку і санаторыі. У вас шматкіламетровая беларуская мяжа, праз якую вы бяспошлінна цягаеце, што хочаце. Вядома ж, не вы асабіста, а падуладныя вам чыноўнікі з адміністрацыі і прыдворныя фірмы.

Вы, прэзідэнт краіны жабракоў, дзе дзяцей у школах кормяць на чатырнаццаць цэнтаў ЗША (чатыры лыжачкі ячных крупаў плюс хвосцік ад рыбы ды шклянка гарбаты), дзе шпіталі без лекаў (нават вайсковыя!), дзе гойсаюць орды абібокаў, г.зв. вашых кантралёраў, нікаючы, выглядаючы, чым яшчэ пажывіцца. Вы галоўнакамандуючы арміяй, дзе з дзесяці верталётаў прыдатныя ўзняцца ў паветра толькі два апараты. Вы прэзідэнт няшчаснай краіны, дзе насельніцтва імкліва вымірае, з-за невыносных умоваў жыцця, дзе 90% дзяцей нараджаецца хворымі! Вы прэзідэнт краіны самых таўстаскурых і таўстамордых начальнікаў на свеце. Вы, прэзідэнт краіны, нават на адкрыцці футбольнага сезону, гуляеце ў бронекамізэльцы пад майкаю. Гэткі ваш адказ на народную любоў?

Вы сказалі, што не паведзяце свой народ за цывілізаванымі краінамі.

Войны заўжды выйгравалі больш цывілізаваныя краіны, так што ваша вайна ўжо прайграная. І дай Божа! Еўрапейская палітыка вырашаецца за еўрапейскімі сталамі, а вас туды на «тамагаўкавы» стрэл не пускаюць...

Не хачу, каб вашыя тантонмакуты тапталіся ля маёй хаты ці віселі на маім тэлефоне, таму падпісваюся дзедавым і прадзедавым імёнамі.

**Якаў КУЗЬМОЎ,**
*г.Мінск*

## Пілі заразную ваду

### *Праз 30 гадоў адумаліся. 30 чалавек у бальніцы*

**У выніку ўжывання заражанай пітной вады ў Віцебскай вобласці пацярпелі 70 чалавек**

30 чалавек шпіталізаваны, яшчэ каля 40 атрымалі менш вострую форму кішэчнай інфекцыі ў выніку ўжывання заражанай артэзіянскай вады ў Сенненскім раёне Віцебскай вобласці. Прычынамі сталі парушэнні, дапушчаныя пры будаўніцтве мясцовага водаправода яшчэ ў 60-я гады: артэзіянскія свідравіны не былі акружаны ахоўнымі зонамі і апынуліся ў небяспечным суседстве з каналізацыйным калектарам.

*БелаПАН*

# Новыя цэны на «Камароўцы»

**На галоўным сталічным рынку — Камароўскім — істотна падраслі цэны амаль на ўсе прадукты. Прычына змены цэннікаў — уздым курса долара.**



Перш за ўсё падняліся цэны на імпарт. Але падаражэлі і беларускія прадукты харчавання. Учора наш карэспандэнт схадзіў на «Камароўку» і занатаваў некаторыя кошты.

Сланечнікавы алей, выраблены ў Расіі, можна набыць па 160 тысяч рублёў за літр, нямецкі раслінны алей — па 175 тысяч, аліўкавы — па 300 тысяч. 500-грамовая ўпакоўка маргарыну «Рама» прадаецца за 140 тысяч рублёў. Канкурэнцыю «Раме» складаюць толькі пецярбургскі маргарын «Расінка» (пачак 250 грамаў — 55 тысяч) і мінскі «Малочны сталовы» (54 тысячы за 250 грамаў). Цэны на беларускі маянез вагаюцца ад 38 тысяч рублёў за 200-грамовы слоік да 46 тысяч — за 250-грамовы.

Мука беларуская, расійская і венгерская прадаецца на Камароўскім рынку па цане ад 35 да 50 тысяч за кілаграм. Цікава, што беларуская грэчка каштуе столькі ж, колькі і в'етнамскі рыс —100 тысяч рублёў. З усіх крупаў самыя танныя — ячныя (30 тысяч за кілаграм). За прасяную крупу просяць 35 тысяч рублёў. Манныя крупы каштуюць 80 тысяч. Адзін кілаграм цукру на рынку можна набыць не танней, чым за 65 тысяч рублёў.

Дзесятак яек на «Камароўцы» прапануюць па 28-30 тысяч рублёў. Набыць тушку бройлера можна па цане 103 тысячы за кілаграм, але трэба адстаяць вялікую чаргу. Свініна прадаецца па цане ад 140-175 тысяч рублёў за кілаграм, цяляціна — 220-250 тысяч, фарш —118 тысяч.

Падвышэнне курса долара не так істотна адбілася хіба што на садавіне і агародніне. Цана на бульбу ўжо даўно застаецца на ўзроўні 10-15 тысяч за кілаграм. Капуста каштуе 12 тысяч. Кілаграм морквы — ад 13 да 20 тысяч. Цыбуля (з Балгарыі і Малдовы) прадаецца на «Камароўцы» па 27-30 тысяч. За агуркі, вырашчаныя на аграфірме «Ждановічы», гандляркі просяць 90 тысяч рублёў, за ждановіцкія памідоры — ад 50 да 70 тысяч рублёў. Салодкі перац прадаецца па цане ад 35 да 50 тысяч рублёў. Столькі ж каштуюць і баклажаны. Як ні дзіўна, але малдоўскія яблыкі (30 тысяч за кілаграм) атрымліваюцца таннейшыя за беларускія (35-50 тысяч рублёў), зусім не саступаючы ім па якасці і смаку.

Курыльшчыкі добра ведаюць, што на «Камароўцы» можна набыць цыгарэты па самым нізкім кошце, лепей за ўсё — адразу блокамі па дзесяць пачак. Блок самых «народных» цыгарэтаў — *L&M* — прадаецца па 700 тысяч рублёў, столькі ж каштуе і блок *Pall Mall*. Цыгарэты *Winston* можна набыць па 850 тысяч за блок, *West* — за 970, за блок *Bond*'у трэба заплаціць 595 тысяч. Аматары больш шляхетных цыгарэтаў мусяць выкладваць больш за мільён за блок любімай «атруты»: за *Camel* — 1 мільён 100 тысяч рублёў, за *Marlboro* — 1 мільён 330 тысяч, за *Dunhill* — 1 мільён 420 тысяч. Украінская «Прыма» каштуе 415 тысяч за блок, расійскі «Союз-Аполлон» — 470 тысяч. З беларускіх цыгарэтаў можна набыць «Мінск» па 460 тысяч за блок ці «Астру» (310 тысяч).

Раім усім, хто збіраецца на рынак у суботу-нядзелю, узяць з сабой не толькі мяхі для прадуктаў, але і вялікі мех з грашыма. І, на ўсялякі выпадак, вазьміце валяр'янку ці валідол — каб супакоіцца.

**Міхась КАРПОВІЧ**

*Крымінал*

## Малалетнія злачынцы

Злачыннасць маладзее. Як сведчыць крымінальная статыстыка, за 9 месяцаў гэтага года непаўналетнія толькі ў Мінску ўчынілі 1.344 злачынствы. Вось некалькі прыкладаў са сталічнай крымінальнай зводкі апошніх дзён.

Патрульны нарад міліцыі затрымаў у мінулы аўторак на вул. Батанічнай побач з пунктам скупкі каштоўных металаў 15-гадовага навучэнца ПТВ, які спрабаваў прадаць цыганкам залаты пярсцёнак. Высветлілася, што падлетак скраў пярсцёнак у свайго сябра, прыйшоўшы да яго ў госці. Сябра малалетняга злодзея даведаўся пра крадзеж толькі ад супрацоўнікаў міліцыі.

На старых могілках на вуліцы Чарнігаўскай (мінскі мікрараён Курасоўшчына) у мінулыя выхадныя вандалы разбурылі і пашкодзілі каля 40 надмагільных помнікаў. На падставе паказанняў выпадковых сведкаў міліцыя затрымала двух дзецюкоў: 19-гадовага беспрацоўнага, які дарэчы, ужо мае адну судзімасць, і 17-гадовага навучэнца ПТВ. Цяпер вандалам пагражае да 5 гадоў турэмнага зняволення за злоснае хуліганства.

15-гадовы вучань 10-га класа адной з мінскіх школаў адціснуў аконную раму ў раздзявальні суседняй школы і скраў сумку, у якой было 150 долараў. На жаль, нам не ўдалося высветліць, каму належала сумка з доларамі — вучню ці настаўніку.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Чыя турма лепшая?

### *Польшча вярнула беларускіх бандытаў на радзіму*

У мінулую сераду на мытным пераходзе «Варшаўскі мост» прадстаўнікі польскай паліцыі перадалі двух беларускіх рэкецiраў супрацоўнікам МУС Беларусі. Цяпер бандыты будуць адбываць пакаранне ў турме на радзіме.

Абодва рэкеціры (аднаму 17 гадоў, другому — 30) увахoдзілі ў склад злачыннай групоўкі, якая ўчыняла на тэрыторыі Польшчы разбойныя напады на грамадзянаў з СНД. Польская паліцыя арыштавала групоўку за напад на ўкраінцаў. Пасля затрымання бандыты заявілі, што яны расіяне, але хутка высветлілася, што большасць з іх — беларусы. Трое з гэтай банды застаюцца ў турме Бяла-Падляскі (Польшча). Пытанне аб іх перадачы пакуль не вырашанае.

Дарэчы, як паведамляе агенцтва БелаПАН, сёння ў польскіх турмах адбываюць пакаранне каля 400 грамадзянаў Беларусі. Летась нашыя суайчыннікі ўчынілі ў Польшчы каля 2 тысяч злачынстваў.

**Алег ПЛУТАЎ**

## Забойства апоўначы

Каля 12 гадзінаў ночы ў мінулы аўторак на праспекце Ракасоўскага ў Мінску да групы з трох мужчынаў ва ўзросце ад 40 да 60 гадоў прычапіліся двое невядомых. Распачалася сварка, і невядомыя дасталі нажы. Злачынцы цяжка паранілі ўсіх траіх мужчынаў. Адзін з параненых памёр на месцы, астатнія трапілі ў шпіталь. Цяпер міліцыя займаецца пошукам забойцаў.

**М.К.**

## Выкінуўся з акна

10 кастрычніка трагічна загінуў супрацоўнік КДБ з Мінскага абласнога ўпраўлення Ігар Чыж. Паводле папярэдняй інфармацыі, ён выкінуўся з акна шматпавярховага дома. У самім упраўленні факт трагічнай гібелі маладога афіцэра КДБ пацвердзілі, паведаміўшы, што абставіны гібелі І.Чыжа высвятляюцца.

*БелаПАН*

## За разбой на дарогах

Віцебскі абласны суд вынес прыгавор пяцярым жыхарам Полацка — членам арганізаванай злачыннай групы. Злачынцы былі затрыманыя год таму. Іх узялі на месцы злачынства пры ўчыненні ўзброенага нападу на пасажырскі аўтобус на трасе Віцебск — Смаленск. Усіх пяцярых суд прыгаварыў да розных тэрмінаў пазбаўлення волі — ад 4 да 13 гадоў.

**Б.П.**



# Адзін габрэй сярод беларусаў і палякаў


Аднарукі Меер — апошні габрэй Радуні.


Хрышчэнне ў Радунскім касцёле.

***Меер Хамавіч Столяр жыве ў сваёй невялікай хаце па суседству з беларусамі і палякамі. Яго можна смела аднесці да ліку доўгажыхароў мястэчка Радунь, што знаходзіцца непадалёк ад мяжы з Літвой — у Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці. Мееру — 85. Гэта чалавек незвычайнага лёсу — ён адзін з нямногіх шчасліўцаў, якім удалося выратавацца ад расстрэлу ў час вайны. 2.136 ягоных суродзічаў-габрэяў былі расстраляныя тут у траўні 1942 года. Стары Меер — апошні тутэйшы яўрэй. Ён не пакінуў Беларусь, не падаўся ўтульна і сытна дажываць свой век на зямлі абетаванай. Усе ж астатнія, хто застаўся ў жывых, даўно з'ехалі. Меер кажа, што яму цяжка парваць сувязь з мінулым. Тут пахаваныя дзве ягоныя жонкі. Першая была габрэйкаю, другая — беларускаю. Тут пакоіцца закатаваная паўтарагадовая дачка. Ды і не лічыць Меер сябе адзінокім, забытым. Усе суседзі і знаёмыя — гэта ягоныя сябры.***

*«Як удалося вам выратавацца?» — пацікавіўся я ў Меера Хамавіча. Адчувалася, што нялёгка старому чалавеку варушыць, няхай сабе і даўні, боль.*

***«10 траўня 1942 года ў чатыры гадзіны раніцы нас, маладых габрэяў, пагналі з рыдлёўкамі на могілкі, — успамінае Меер Столяр. — Я зразумеў, што мы будзем капаць магілу самі сабе. Згаварыўшыся, мы вырашылі ўцякчы. Але на гэта асмеліліся не ўсе...»***

***Аглушыўшы аднаго фашыстоўца рыдлёўкаю, яны кінуліся на ўцёкі. Ахова не адразу ўцяміла, што адбылося. Многіх уцекачоў дагналі і пастралялі. Мееру ўдалося дабегчы да лесу... Тым днём усіх вязняў радунскага гета прывялі да свежавыкапанай ямы...***


У мястэчка прывезлі хлеб.


У Радунскай школе-інтэрнаце вучацца дзеці з няпоўных сем'яў, а таксама дзеці-сіроты.

***Цяпер у Радуні насельніцтва не на шмат болей той колькасці расстраляных суродзічаў Меера. Вымірае мястэчка. У дзень, калі я наведаў Радунь, было чатыры пахаванні і адны хрэсьбіны. Апошнім часам тут, праўда, паболела цыганскіх сем'яў. Але асноўныя насельнікі, як і спрадвеку, беларусы і палякі. Да гонару каталіцкай парафіі, у Радуні ніколі не быў зачынены касцёл. А ў колішняй школе равінаў цяпер месціцца Дом культуры.***

***Анатоль КЛЯШЧУК***
*Фота аўтара*


У адзін дзень — чатыры пахаванні.

## *Мнение читателя*

**МЕНЯ УДИВЛЯЕТ** наша министерство статистики. Вчера они сообщили, что цены в сентябре возрасли в Беларуси на 17%. Неужели они не ходят в магазины?! Даже селедка уже продается по цене осетровых рыб.

Конечно, и среди нас есть бодрячки, которым все нипочем. Например, кто сумел насшибать «зелени», тот только радуется (дорожает она не по сезону). Или, допустим, президент: что ему какой-то кризис, если живет он не на зарплату, как нам советует. Душой, правда, он за народ болеет, беспокоится, что продовольствие в славянский зарубеж вывозится. Говорит (на встрече с тружениками Круглянского района): надо, мол, цены поднимать до уровня российских, иначе никакие кордоны на границе не помогут.

Мысль, мудрая, а главное, своевременная. С ценами ведь так и так не управиться, так не лучше ли сделать вид, что их специально выравнивают. А чтобы народ заботу чувствовал, поднимают «минималку» на целых 100 тысяч. Не важно, что за такие деньги теперь и пары носков не купишь, важен сам факт — повысили.

Да, времена меняются, а с ними люди и нравы. Ровно четыре года назад, когда наш молоденький, зелененький, что советская трехрублевка, первый президент «откручивал» назад цены, закрученные «нячэсными» торгашами во время его отсутствия во вверенной стране — это было одно. Теперь он цены для блага народа «закручивает» — это уже другое.

Впрочем, народ и теперь молчит. Главное, говорят народу, чтобы не было войны в Сербии. Да, главное, молча соглашается народ.

**Александр СМОЛЕВИЧ**, *г.Минск*

*Конкурс для школьнікаў: галоўны прыз — камп'ютэр*

# Блізкая гісторыя

## Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945–1965

Архіў найноўшай гісторыі (пры Беларускім гуманітарным фондзе «Наша Ніва») пры ўдзеле Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны абвяшчае конкурс «Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945—1965».

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта... Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстання метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.

У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных установаў: школ (пачынаючы з 7 класа), ліцэяў, гімназіяў, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў ці нават фільм, інтэрв'ю і г.д. Галоўнае, праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых формаў да працы павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і г.д.

Працу трэба даслаць у адным асобніку да 30 лістапада (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: ***220123, Мінск, а/с 71.***

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 15 снежня 1998 года. **Пераможцаў конкурсу чакаюць мультымедыйны камп'ютэр (галоўны прыз), а таксама фотаапараты, дыктафоны і мноства іншых прызоў.**

Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль ***(тэл.: (0172) 77-46-25 з 7:00 да 8:00 і з 22:00 да 23:00)*** па Мінску і Мінскай вобласці, а ў іншых рэгіёнах — ад рэгіянальнага каардынатара конкурсу ў вашай мясцовасці. Звесткі пра каардынатараў будуць надрукаваныя ў мясцовай прэсе.

Жадаем поспехаў!

# Хвост, виляющий собакой

## *Беларуси надо вспоминать «докартофельную» эпоху*

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Наши особые экономические отношения с Россией действительно особые. С одной стороны, она, вроде бы, является нашим сырьевым придатком, а с другой — этот «придаток» похож на хвост, который виляет собакой.

Чисто формально все выглядит достаточно привлекательно: покупая в России сырьевые ресурсы, Беларусь экспортирует в эту страну готовую продукцию. Поэтому у стороннего наблюдателя может сложиться впечатление, будто независимая Беларусь эксплуатирует экономически отсталую метрополию. На самом деле это далеко не так. Имея технологически отсталую промышленность, функционирующую в условиях жесткого административного контроля, Беларусь приобретает ресурсы по мировым и более высоким ценам, но производит продукцию, далекую от мировых стандартов, и продать ее по мировым ценам не может. Поэтому денег на оплату ресурсов, как правило, не хватает, и неэффективность чисто торговых отношений с Россией приходится компенсировать политическими мерами, а если говорить откровенно, приторговывать политическим суверенитетом страны, эксплуатируя тему интеграции.

Правда, хозяйственники разрабатывают различные схемы безденежного товарообмена, которые имеют весьма отдаленное отношение к торговле как таковой. Поэтому обратным эффектом наращивания товарооборота с Россией является сокращение валютной выручки предприятий и, соответственно, валютных поступлений в казну. В частности, только за восемь месяцев текущего года выручка от экспорта в СКВ сократилась на 18%.

А в международном разделении труда мы выглядим вообще жалко. По данным нашего министерства внешнеэкономических связей, доля белорусского экспорта в мировом находится ниже отметки 0,01%, а стоимость экспорта на душу населения в месяц не превышает 50 долларов США.

До 1995 года, когда Беларусь проводила более открытую политику, были сделаны определенные попытки, чтобы увеличить поставки товаров в дальнее зарубежье. Многие предприятия имели для этого большие возможности, которые, по известным причинам, так и остались нереализованными.

А после торжества интеграционной политики процесс пошел вспять. Мы стали наращивать объемы производства, всячески проталкивая продукцию в Россию, но в то же время ежемесячно сокращали экспорт в страны остального мира. Но для того, чтобы производить больше, нам недостаточно только российских сырьевых ресурсов, поэтому пришлось увеличивать закупки комплектующих на Западе.

Взять, например, «Горизонт»: «своего» у этого телевизора остались разве что футляр и минская торговая марка. А вся «начинка» закупается у западных фирм.

А если говорить о цифрах, то за первое полугодие Беларусь снизила экспорт в дальнее зарубежье на 10%, а импорт увеличила на 25%. Иными словами, с одной стороны, увеличивается зависимость белорусской экономики от поставки ресурсов из стран СНГ, а с другой — от поставок материалов и комплектующих из дальнего зарубежья.

Добавим, что валюты на это практически нет, потому что на внешних рынках конкурентоспособны только два вида белорусской продукции: калийные удобрения и прокат черных металлов, продажа которых обеспечивает около 60% валютной выручки Беларуси. Почти все остальное, что у нас производится, внешнеторговых перспектив практически не имеет.

После известных событий в России эффективность экспорта в эту страну резко снизилась, до 80% по некоторым группам товаров. Это значит, что там, где до кризиса российский партнер предлагал за товар десять долларов, теперь может предложить только два. А это такая потеря, которую не компенсируешь никакими особыми отношениями: рынок — это спрос, и только он устанавливает реальную цену на товар.

Белорусские власти, надеясь на Россию, заблуждаются, считая, что емкость рынка оценивается территориальными масштабами страны и численностью ее населения. На самом деле — мы на равных. В прошлом году российский экспорт составлял 1% мирового, что с учетом «разномасштабности» соответствует доли Беларуси. Но вот Бельгия, при такой же как и у Беларуси численности населения, продала (по ценам мирового рынка) своей продукции в 3,6 раза больше, чем Россия, и в 36 раз больше, чем Беларусь.

За этими цифрами — реальная ситуация. Россия вовсе не наш придаток, не от нашей экономики она зависит, а от мирового рынка, в первую очередь сырьевого. И какими бы ни были имперские амбиции этой страны, но Кремль всегда помнил об этом коротком поводке и всегда пробовал его разорвать. Средства для этого были (в последний раз граница России была отодвинута даже на Запад от Берлина), но на внутреннее «обустройство», как писал Солженицын, их всегда не хватало.

Наша «малость» таковой видится только из Кремля, а по европейским меркам Беларусь — страна вполне подходящая. Поэтому нет никакой необходимости разделять чужие амбиции, но нет и оснований для самоунижения. Надо просто использовать то, что есть. Когда-то Швейцария могла «поставлять» на мировые рынки разве что солдат-наемников, сегодня она является богатейшей страной мира. Ну а наши ресурсы вовсе не ограничиваются одной картошкой. К тому же в «докартофельную» эпоху мы были вполне европейской страной.

### *Карупцыя*

***Страты ад карупцыі ў Расіі складаюць штогод да 15 мільярдаў долараў. Такія дадзеныя абнародавалі брытанскія эксперты. Яны напрамую звязваюць сённяшні фінансавы крызіс у Расіі з дзейнасцю чыноўнікаў. Па іх прагнозах, у бліжэйшыя 5 гадоў сітуацыя не зменіцца да лепшага.***

### *Дапамога*

***Губернатар Кемераўскай вобласці Расіі Аман Тулееў перадаў у дзіцячыя дамы каля 60 цэнтнераў бульбы, якую сабраў са сваіх 50 сотак зямлі.***

### *Візіты*

***Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус на 10 дзён пакінуў сваю краіну — у сераду ён адправіўся з візітамі ў Польшчу, ЗША і Германію.***

### *Кантроль*

***Краіны Заходняй Еўропы па рэкамендацыі экспертаў Еўрасаюза ўзмацнілі радыяцыйны кантроль за імпартам грыбоў з Беларусі і Украіны***

### *Прэміі*

***Былому прэзідэнту СССР Міхаілу Гарбачову аўтарытэтная негрыцянская арганізацыя ЗША прысудзіла прэмію Свабоды за ўклад у «справу абароны грамадзянскіх і чалавечых правоў».***





# Один день

## *Бывший народный депутат СССР из Гомеля попал в американскую полицию*

**Юрий ВОРОНЕЖЦЕВ**

Летом этого года в составе группы земляков-гомельчан я изучал работу американских неправительственных организаций непосредственно в США.

Однако, среди прочих ярких впечатлений весьма любопытным оказалось знакомство с одной из самых правительственных организаций — американской полицией. Сразу оговорюсь — общение было добровольным в отличие от опыта всей предыдущей жизни в советском и постсоветском государстве. Как раз этот, в основном печальный, опыт и побудил искать возможность посмотреть вблизи: «а как же там у них?». Американские друзья пошли навстречу, и вот мы в полицейском департаменте Де-Мойна — столицы штата Айова.

Офицер познакомил нас с историей департамента, проведя короткую экскурсию по музею, похожему во многом на наши музеи боевой славы какого-нибудь краснознаменного ордена Кутузова полка внутренних войск. Тут же фотографии погибших «при исполнении» полицейских. Последний подобный случай был здесь ровно двадцать лет назад. Неплохой результат для местности, где каждая уважающая себя семья держит в доме на всякий пожарный по несколько «стволов».

### У них глухонемой не заговорит

После музея к нам присоединился сержант, который помог офицеру проконвоировать нас в помещения посерьезнее. Здесь были и пластиковые идентификационные карточки, и решетки, и бдительные охранники с оружием. Нам показали технологию задержания, привода, допроса, суда и т. д. Познакомились с детективами, патрульными, руководством департамента и правонарушителями. Прошли по пути, которым последних ведут после доставки в департамент с места происшествия.

Путь полицейских с задержанными в руках сопровождается слежением телекамерой с записью всего происходящего. Телекамера стоит даже в лифте. Комната с клеткой, куда помещают в наручниках вновь прибывших, оборудована аж четырьмя телекамерами. Трудно американскому полицейскому. Дать по шее в воспитательных целях хулигану или иному неприятному элементу негде. А наш вопрос о «выбивании» нужных показаний был вообще не понят. Так что, глухонемой в Штатах не заговорит. Кстати, упомянутая комната, где бедолаги сидят в клетке, пока оформляют их документы и занимаются выяснением личности, оборудована высокопрочной прозрачной перегородкой, которая защищает полицейских от плевков наиболее эмоциональных задержанных.

Судить совершившего незначительный проступок гражданина могут прямо в здании департамента сразу после доставки и оформления протокола. В присутствии, разумеется, адвоката. Судья находится в километре с лишним в своем рабочем кабинете, а подсудимый с адвокатом — в специальной комнате, оборудованной телекамерой и монитором. Виновный получает свой штраф и едет оплакивать финансовые издержки к семье. Суд в этом случае очень скор, ну а насчет справедливости бывшему советскому человеку судить трудно.

Если привезенный в «околоток» законопреступник учинил что-то более серьезное, чем пьяное нарушение общественного порядка, будет назначено расследование, а самого виновного отпустят под солидный денежный залог домой. Если он, конечно, кого-нибудь не убил или не ограбил. В этом случае по подземному тоннелю его отведут под белые руки, закованные в стальные браслеты, в тюрьму, находящуюся через улицу. По пустякам в тюрьме не держат. Считают, что это дорого, а значит глупо. Набедокуривший гражданин ждет суда дома, а вместо срока часто получает возможность значительно пополнить государственную казну.

### Полиция прибывает через минуту

После посещения департамента мы перешли к самой интересной части нашей полицейской программы — патрулированию улиц ночного Де-Мойна. Патруль состоял из сержанта Чарли Ричардсона. В качестве временных помощников выступали я с другом и переводчик, который сидел рядом с сержантом на переднем сидении и помогал нам в общении.

Мы погрузились в просторный 230-сильный *Ford Crown Victoria* под номером 2064. Между передними сидениями стволом вниз был укреплен в специальном замке карабин 12 калибра. Как нам объяснили, даже в случае угона полицейского автомобиля злоумышленники не смогут достать оружие, не зная кода замка. На передней панели — компьютер и рация с защищенной частотой. Перехватить разговоры можно, но используя при этом очень дорогую стационарную аппаратуру. Де-Мойнский преступный мир такой пока не обзавелся. У Чарли на поясе — еще одна рация и спутниковый телефон, который появился на вооружении сравнительно недавно, и сержант пользуется им охотнее, чем шумной рацией. Конечно, тут же и большой 9-миллиметровый пистолет, являющийся личной собственностью полицейского — куплен на его деньги. Чарли приходилось неоднократно пускать пистолет в дело, а вот пользоваться карабином он не любит из-за его больших размеров и, как мне показалось, из-за смертоубийственного боя, который не оставляет противнику шансов выжить после удачного попадания. Сержант не берет с собой и дубинку, которой вообще ни разу не пользовался. Дополняют экипировку наручники и два нагрудных жетона — на одном порядковый номер, фамилия и герб города, а на другом — фамилия и год поступления на службу в полицию. Наш патрульный оберегает спокойствие жителей Де-Мойна вот уже 22 года.

Патрулировали мы не очень благополучный восточный район города (то, что мы называем у себя рабочими окраинами). Маршрут точно не установлен — это для того, чтобы его не смогли вычислить хулиганы и бандиты. Определен лишь район патрулирования. Мы непрерывно движемся со скоростью 40—45 км/час, иногда замедляясь до 10—15. Сколько всего проезжает патруль за смену и сколько сжигает

